*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 12 (172) ◈ 23 сакавіка 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.



## ПОСТУП ТЫДНЯ

**У ШТАБ-КВАТЭРЫ СНД У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЯЧЭСЛАВА ГРЫБА З КІРАЎНІЦТВАМ ВЫКАНАЎЧАГА САКРАТАРЫЯТА І ЯГО ПАСТАЯННЫМІ ПРАДСТАЎНІКАМІ ДЗЯРЖАЎ СНД.** *На ёй быў абмеркаваны шэраг пытанняў, дасягнута дагаворанасць аб падрыхтоўцы дакументаў, якія паставілі б на прававую аснову адносіны паміж Выканаўчым сакратарыятам як міжнароднай арганізацыяй і краінай знаходжання гэтай міжнароднай арганізацыі, замацаваўшы ў іх адказнасць і абавязкі бакоў.*

◆◆◆

**15 САКАВІКА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯЎ АСНОЎНЫ ЗАКОН ДЗЯРЖАВЫ — КАНСТЫТУЦЫЮ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Гэты дзень аб'яўлены нерабочым.

◆◆◆

**НА ЗАКРЫТЫМ ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ.** Як паведамілі сродкі масавай інфармацыі, прамова В. Кебіча гучала, як і заўсёды, аптымістычна: маўляў, у бліжэйшы час усё наладзіцца. Калі?

◆◆◆

***АМАЛЬ ДВА ДНІ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ АБМЯРКОЎВАЎ РАБОТУ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ».*** *Было вынесена чатыры праекты пастановы Вярхоўнага Савета, але ні адзін не быў прыняты. Так што не такая яна ўжо і «ненародная» гэта «Народная газета».*

◆◆◆

***У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ ЧАКАЕЦЦА РАТЫФІКАЦЫЯ*** *міжурадавага пагаднення аб ўваходжанні беларускага дзяржпрадпрыемства «Белтрансгаз» у расійскае АТ «Газпрам». Камісія Вярхоўнага Савета па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі лічыць, што ацэначны кошт «Белтрансгазу» ў 1,2 мільярда рублёў вельмі заніжаны. Апазіцыя ж выказваецца больш рэзка: ідзе бессаромны распродаж рэспублікі.*

◆◆◆

**БЕЛАРУСКА-ЛАТВІЙСКА-ШВЕЙЦАРСКІ «МЕНСКІ ТРАНЗІТНЫ БАНК» ЗАРЭГІСТРАВАНЫ У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

◆◆◆

***ЗГОДНА З ДАНЫМІ АПОШНІХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ,*** *праведзеных у Беларусі Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры садзейнічанні Міжнароднага цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва (CIPE, ЗША), 43,3 працэнта апытаных лічаць неабходнымі выбары прэзідэнта і 68,8 працэнта падтрымліваюць ідэю датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет. Супраць, адпаведна, 26,4 і 7,7 працэнта. Большая колькасць рэспандэнтаў — 17,9 працэнта — аддала б свае галасы на выбарах за Беларускі народны фронт; Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць — 15,9; Партыя камуністаў Беларусі — 10,5; Беларуская сялянская партыя — 10,0.*

*69,5 працэнта апытаных ацанілі на «дрэнна» і «нездавальняюча» дзейнасць Савета Міністраў Беларусі.*

*Віктар ШНІП*

## *25 САКАВІКА 1994*

*Яшчэ далёка нам да Волі,*
*Але ідзём, ідзём штоміг.*
*Не здай нікому і ніколі*
*Свой Дзень і Край.*
*Людзей чужых*
*Ва ўсе вякі між нас хапала,*
*Ім вечна трэба быў хамут,*
*Каб наша Беларусь «пахала»*
*І памірала ад пакут.*
*Жыве і будзе жыць наш Кут!*
*І хай не думае сусед,*
*Што мы рахманыя і нас*
*З дарогі зб'е і да яго*
*Мы пабяжым, як у калгас*
*Калісьці беглі, каб пасля*
*Не мець нічога з мазаля...*
*Яшчэ далёка нам да Волі,*
*Ды ёсць наш Дзень, і ёсць наш Край.*
*Ты іх нікому і ніколі*
*Нат перад смерцю не аддай!*

*Жыццё Таварыства*

## Папулярнасць беларускай мовы расце, але змаганне за яе няпростае

24 лютага г.г. ў Менску ў памяшканні Беларускай політэхнічнай акадэміі адбылася канферэнцыя рады ТБМ Савецкага раёна Менска. На абмеркаванне былі вынесены наступныя пытанні: аб падпісцы на беларускамоўныя выданні, справаздача старшыні рады аб дзейнасці арганізацыі ды аб стане выканання ў раёне Закона аб мовах, а таксама перавыбары кіраўніцтва.

Падчас абмеркавання стану падпіскі на беларускамоўныя выданні ўсімі прамоўцамі быў адзначаны рост іх папулярнасці. Але, нягледзячы на гэта, сябры ТБМ выказаліся за неабходнасць спрыяння падпісцы ў розных формах, у тым ліку і праз распаўсюджванне сярод насельніцтва і змяшчэнне ў пунктах падпіскі спісаў беларускамоўных выданняў. Была выказаная думка аб неабходнасці пашырэння падпіскі ў бюджэтных арганізацыях, прадпрыемствах ды ўстановах.

Перад удзельнікамі канферэнцыі з кароткай інфармацыяй аб дзейнасці выдання выступіў галоўны рэдактар газеты ТБМ «Наша слова» Э. Ялугін, які потым адказаў на пытанні і пажаданні.

З аглядам дзейнасці выдавецкага аддзела Беларускага гуманітарна-адукацыйнага цэнтра выступіў кіраўнік аддзела З. Колас, які паведаміў аб стане спраў у арганізацыі. Паколькі, на яго погляд, дзяржаўныя адукацыйныя і кнігагандлёвыя сістэмы не зарыентаваныя на супрацоўніцтва з апаратыўна дзеючымі ва ўмовах рынку недзяржаўнымі выдавецтвамі, справай распаўсюджвання выдаванай імі дзіцячай і дапаможнай літаратуры варта заняцца Таварыству беларускай мовы.

Журналіст і філолаг В. Вячорка звярнуў увагу на падпарадкаванасць дзяржаве пераважнай большасці беларускамоўных выданняў і магчымую змену ў сувязі з гэтым іх пазіцый. Таму ад ТБМ, на яго думку, магчыма спатрэбіцца пераарыентацыя падпісчыкаў на недзяржаўныя выданні, такія, як «Свабода» ці «Наша ніва».

Са справаздачай аб дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ выступіў яе старшыня, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Алег Трусаў. Ён адзначыў, што найбольшую перашкоду дзейнасці арганізацыі стварае пазіцыя Савецкага райвыканкама. Патрабаванні Закона аб мовах мясцовымі ўладамі папросту ігнаруюцца. Затое станоўчую пазіцыю займае раённая камісія адукацыі. З 22 сярэдніх школ раёна цалкам на беларускую мову навучання пераведзена 12, часткова — 5. Лідэрам з'яўляецца СШ № 20, дырэктар якой — сябра раённай рады ТБМ — арганізаваў навучанне па-беларуску ў класах з першага па сёмы.

Раённая рада, адзначыў яе старшыня, аказвае падтрымку гуманітарнаму ліцэю, які пачынаў сваю дзейнасць на тэрыторыі раёна і ў будучым плануе стварыць у раёне нядзельную філію. Актыўна дзейнічаюць суполкі ТБМ у педагагічнай і мастацкай вучэльнях, у політэхнічнай акадэміі.

Значна горшая сітуацыя, паводле слоў А. Трусава, склалася на прамысловых прадпрыемствах раёна. Створаныя там суполкі Таварыства існуюць выключна на паперы, не праводзячы ніякай работы. Найбольш гэта датычыць заводаў абароннага комплексу — імя Леніна ды імя Арджанікідзе. Курсы беларускай мовы на гэтых прадпрыемствах не дзейнічаюць, дакументацыя не перакладаецца.

Сярод недахопаў дзейнасці раённай рады ТБМ яе старшыня адзначыў спыненне збору сяброўскіх складак, які неабходна аднавіць.

Пасля абмеркавання справаздачы старшыні былі праведзены перавыбары рады. Старшынём яе зноў абраны А. Трусаў.

Канферэнцыя прыняла зварот да Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу з прапановай максімальна захаваць у беларускім правапісе фанетычныя асаблівасці мовы.

Ул. П.

— *У ГАЗЕТАХ* —

## «Гораду і свету»

Так называецца газета Беларускага лінгвістычнага універсітэта, якая з дапамогай сучаснай камп'ютарнай тэхнікі выдаецца ў згаданай ВНУ з мінулага года. Адразу адзначым, што пераважная большасць апублікаваных матэрыялаў — беларускамоўныя, а некаторыя друкуюцца па-англійску. Эпіграфам да «Гораду і свету» з'яўляюцца тыя ж радкі Францішка Багушэвіча, якія мае на першай паласе «Наша слова»: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Ужо адно гэта вызначае задачы газеты сталічных студэнтаў-лінгвістаў: садзейнічаць усебаковаму пашырэнню ўжытку роднага слова, адраджэнню беларускай нацыянальнай культуры.

І апошні, аб'яднаны нумар газеты (студзень — люты бягучага года), якая пакуль выходзіць нерэгулярна, адпавядае такому праграмнаму накірунку. Прыцягвае ўвагу артыкул Міколы Гракава «Іспыт на вартасць грамадзяніна», прысвечаны сяброўскай вечарыне, наладжанай першакурснікамі перакладчыцкага факультэта. Студэнты зацікаўлена абмяркоўвалі набалелыя праблемы нашай культуры: слухалі навуковыя паведамленні (аб трагічных акалічнасцях жыцця Я. Купалы, аб сапраўднай ролі царскага ката А. Суворава ў беларускай гісторыі, аб адметнасцях нацыянальнай сімволікі беларусаў), сустракаліся з народнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета, з беластоцкімі беларусамі, чыталі вершы славутых паэтаў Бацькаўшчыны. Закончылася вечарына, якая стала своеасаблівым іспытам грамадзянскіх вартасцей кожнага ўдзельніка, ускладаннем кветак на магілу Янкі Купалы.

Больш за палавіну нумара займаюць літаратурныя старонкі. Тут — лірычныя вершы Януша Нямігі, сярод якіх, дарэчы, сустракаюцца і вельмі ўдалыя паэтычныя радкі, пераклады на родную мову слынных замежных паэтаў, зробленыя В. Чорным, С. Чыжыкам, М. Шаўчэнкам, В. Мохавым, іншымі студэнтамі.

Да 70-годдзя Віктара Мартынава — вядома беларускага мовазнаўца-славіста, доктара філалагічных навук, прафесара, аўтара звыш 200 даследчыцкіх кніг, брашур і артыкулаў — газета прысвяціла цёплыя віншавальныя словы юбіляру. Ёсць у студэнцкай газеце таксама разнастайная інфармацыя з культурнага жыцця нашай краіны.

М. В.

***15 САКАВІКА У МЕНСКУ НА ПРАСПЕКЦЕ МАШЭРАВА, 11*** *адбылося святочнае адкрыццё арганізаванай Міністэрствам інфармацыі і Нацыянальнай кніжнай палатай рэспублікі выставы «Беларуская кніга-93». На ёй прадстаўлена 10 дзяржаўных выдавецтваў і 619 назваў кніг, якія імі былі выпушчаны, а таксама 21 недзяржаўная арганізацыя з 211 кніжкамі. У мінулы год у Беларусі выдадзена 2 тысячы 926 кніг агульным накладам 98 мільёнаў 350 тысяч паасобнікаў.*

**ВА ЎЗБРОЕННЫХ СІЛАХ НАШАЙ КРАІНЫ ПАЧАЛАСЯ РАБОТА ПА СТВАРЭННЮ ВАЕННАЙ АКАДЭМІІ.**




## Едуць-едуць, не даедуць

Пасля сямімесячнага перапынку зноў давялося наведацца на Бацькаўшчыну. У сталіцу краіны прыбыў цягнікам Івана-Франкоўск — Мінск. Першае, што кінулася ў вочы,— цягнік, які стаяў на суседнім пуці, а дакладней, шыльдачка на адным з вагонаў: «Витязь. Віцебск — Мінск». Чаму нельга было напісаць «Віцязь»?! Вагон жа курсіруе не ў Расію, дзе могуць і не зразумець, чаму замест «т» напісана «ц», а курсіруе па Беларускай чыгунцы паміж сталіцаю незалежнай дзяржавы і абласным цэнтрам на поўначы краіны, імя якой — Беларусь... Калі размова ўжо зайшла пра такую недарэчнасць, як «двухмоўе», або як яго разумеюць на Беларускай чыгунцы, здзівіла і тое, якім чынам дыктар на Мінскім вакзале аб'яўляе аб пачатку пасадкі пасажыраў у той ці іншы цягнік. Вось прыклад такой аб'явы, якую мне давялося паслухаць: «Увага! Аб'яўляецца пасадка на поезд Мінск — Данецк. Поезд знаходзіцца на 17 пуці. Внимание! Объявляется посадка на поезд Минск — Донецк. Поезд находится на 17 пути. Отправление в... часов... минут». Вось так, цягнік стаў чамусьці поездам, а па-беларуску ўжо не згадваюць, у які час гэты цягнік адпраўляецца ў Данецк, бо дыктар Мінскага вакзала «забылася», як па-беларуску будзе «час» — (гадзіна).

Станцыя Рудзенск усяго ў 37 км ад сталіцы ў накірунку Пухавічаў, аб'явы тут робіць дыктар толькі па-руску, быццам бы Рудзенск не пад Мінскам, а дзесьці пад Смаленскам ці нават Масквою. Тое ж самае і ў прыгарадных электрычках: аб'явы аб адпраўленні цягніка, аб прыбыцці на чарговы прыпынак машыніст ці ягоны памочнік робяць таксама па-руску. Вось вам і Закон аб мовах, вось вам і прынцып «двухмоўя», аб якім так любяць гаварыць людзі, якія беларускай мовай і самі не валодаюць і пазбаўляюць магчымасці яе чуць астатніх грамадзян.

Калі ж на Беларускай чыгунцы, нарэшце, паважна загучыць беларуская мова, няхай сабе і поруч з мовамі тых краін, куды накіроўваюцца цягнікі, і пасажырамі могуць быць людзі іншых нацыянальнасцей. Не кажучы аб прыгарадных электрацягніках.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў, Украіна.

## У Нясвіжскім касцёле гучыць наша мова

*Дзякуючы ксяндзу Генрыху Акалатовічу ў час набажэнства ўжываецца беларуская мова. Праўда, памочнікі ксяндза яшчэ чытаюць святыя пісанні парасійску, бо няма беларускіх.*

*Нядаўна ў касцёле адбылася імша, прысвечаная памяці прадстаўнікоў славутага роду Радзівілаў. На імшы прысутнічалі госці з Менска, якія прыязджалі на адкрыццё міжнароднага фонду «Нясвіж». Разам з імі былі і кіраўнікі мясцовых органаў улады.*

**М. ВАЛЬКО.**

г. Нясвіж.

## ШАНУЮЦЬ ТРАДЫЦЫІ Ў ЖЛОБІНЕ

Дзіцячаму садку № 19 г. Жлобіна нядаўна споўнілася пяць гадоў. З першых дзён працы тут вырашылі весці ўвесь навучальна-выхаваўчы працэс на беларускай мове, змалку знаёміць дзятву з нацыянальнымі традыцыямі. За пяцігоддзе ўжо зроблена нямала. У прыватнасці, тут створаны невялікі этнаграфічны музей «Беларуская хатка», а, галоўнае, дзеці з павагай і любоўю ставяцца да роднай культуры і матчынай мовы.

Натхнёна і самаадданa працуюць у садку педагогі Алена Пранько, Ганна Меркуль, Таццяна Маргунова, Вікторыя Пятрэнка, метадыст Лілія Пінчук. Узначальвае творчы педагагічны калектыў вопытны арганізатар Валянціна Добышава.

**Мікола ШУКАНАЎ.**



НА ЗДЫМКУ: Алена Пранько з дзецьмі ў «Беларускай хатцы».

**Фота Аляксандра ШАЙНОВА.**

### МЕРКАВАННІ

## БЕЛАРУСАФОБІЯ ІСНУЕ. І, НА ЖАЛЬ, НА БЕЛАРУСІ

**«Беларусафоб», «беларусафобія», «беларусафобны», «беларусафобства» — гэтых слоў няма ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы, як няма іх у ніводным слоўніку, што я маю. Не даводзілася сустракаць гэтыя словы і ў якім-небудзь друкаваным тэксце. Але гэта яшчэ не азначае, што няма самой з'явы і паняцця, звязанага з імі. У друку іншым разам сустрэнеш слова «антыбеларускі», але яно не вычэрпвае ўсіх адценняў з'явы і ў пэўнай ступені нават яе маскіруе.**

**Крышку этымалогіі.** Першая частка пададзеных слоў датычыць беларуса і ўсяго беларускага, у цяперашнім разуменні, хоць кампанент *-рус-*, *-рускі* мае няяснае паходжанне. Другая частка паходзіць ад грэчаскага слова «фобас», «фобія» і азначае «страх», «боязь».

Страх быў сталым спадарожнікам бога вайны Арэса — ў рымскай міфалогіі Марса — вось адкуль і найменне аднаго са спадарожнікаў планеты Марс.

Усе прагледжаныя мною слоўнікі падаюць другую частку са значэннем «страх», толькі кароткі аксфордскі слоўнік ангельскай мовы падае значэнне «агіда». Сапраўды, як без гэтага значэння зразумець шматлікія словы, дзе першаю часткаю стаіць назва нацыянальнасці?

Слоўнік французскай мовы «Ларус» прыводзіць азначэнне «фобіі» як форму неўрозу з пакутлівым страхам чаго-небудзь. Мне падаецца, што час пазначаць «фобію» як «апантаную нянавісць да чаго-небузь», а ў звязцы з назвай нацыі як «нянавісць да гэтай нацыі». Беларусафобія — нянавісць да беларушчыны.

Дарэчы, класічны грэка-беларускі слоўнік Яна Пытроўскага падае побач з ужо пададзенымі значэннямі слова «тэрор», але яно ў лаціне і шэрагу сучасных раманскіх і ангельскай мовах мае значэнне «страх».

Існуе беларусафобія? Бясспрэчна. Унутры нашай дзяржавы яна, на маю думку, з'явілася са стратай самастойнасці, з ганьбай няволі. Бо ніколі народ, што паважае сябе і мае сілы да супраціву, не дазволіць зняважаць сябе і сваю мову. Гэта, як у прыродзе, — на аслабелы арганізм нападаюць ворагі.

Формы беларусафобіі маюць сваю адметнасць ад, скажам, юдафобіі. Беларус ўсё-ткі не семіт, якога спрабавалі пазнаць па пэўных, уласцівых гэтай расе, анатамічных асаблівасцях. Яго не «возьмеш» на нюх, як гэта рабілі гітлераўцы падчас вайны. І моліцца беларус не ў сінагозе і не ў суботу і абразання не робіць... Здаецца, і прыдрацца няма да чаго... Сапраўды, з гэтага боку беларус ідэнтычны сваім індаеўрапейскім суседзям... Але загана — і буйная — у беларуса усё-ткі ёсць. Ён не рускі і не паляк.

Прэтэндуючы на наш народ і на нашу зямлю, абодва нашы «прыяцелі» — польскі і расейскі — даводзілі нам і даводзяць! — што мы — гэта амаль яны, толькі крышку сапсаваныя суседам. Яны, вядома ж, гатовы дараваць нам нашу сапсаванасць, але, як распусны хлапчук, мы павінны «выправіцца»: адцурацца ад сваёй мовы, сваёй гісторыі, сваіх этнаграфічных адметнасцей. Адцурацца ад права на сваю зямлю ўрэшце. Праграма ну зусім сціплая.

Вядома, «фобія» ўключае ў сябе і прамыя абразы нашай мовы з боку люмпенізаванай часткі прышлага насельніцтва. Мне даводзілася чуць, праўда, у пераказе, агідныя, не вартыя чалавека, выказванні пра нашу мову.

Беларусафобія выяўляецца ва ўпартым супраціве беларушчыне з боку афіцыйных улад. Іхнія паводзіны ў гэтым сэнсе ідэнтычныя паводзінам каланіяльных улад у калоніі. Скажам, дэманстратыўнае ігнараванне беларускай мовы першымі асобамі дзяржавы. Значыць, грэбуюць?

А ўціск патрыятычных беларускіх арганізацый! А заахвочванне і спрыянне арганізацыям, адкрыта варожым да ўсяго нашага? А прапаганда быццам бы няздольнасці нашага народа жыць самастойна. Ну чым не гебельсаўскі прыём!

Зараз уся прапаганда — як унутраная, гэтак і знешняя — скіравана на дыскрэдытацыю суверэннасці і незалежнасці, на абуджэнне пачуцця безвыходнасці і адчаю. Чым болей народ дэмаралізуецца і зняверыцца, тым лягчэй ён стане ахвяраю суседзяў.

Беларусафобія — не прыватная справа несвядомых чыноўнікаў і алкашоў-люмпенаў. Гэта распрацаваная сістэма мерапрыемстваў на самым высокім узроўні. Скажам, планамернае — на працягу стагоддзя — вынішчэнне інтэлігенцыі. Спярша расейскія цары гналі ў Сібір і азіяцкія стэпы. Потым бальшавіцкае паляванне, ад якога паратунку не было. Гэта не прыватная справа аднаго дурнога чыноўніка.

Каланіяльны ў маральным сэнсе стан нашай дзяржавы — асноўная прычына беларусафобіі. Калі беларусафобія даволі распаўсюджаная з'ява і мае афіцыйную падтрымку — ілюзій тут не павінна быць — то як з ёю змагацца?

Апеляцыя да гонару, да розуму, да прыстойнасці марныя: беларусафобы — свядомыя беларусафобы. Зварот да іх бясплённы. Калі так, то трэба паказваць навуковую лжывасць беларусафобіі, яе варожасць нашаму народу, паказваць, каму яна выгадная і чаму. Гэта значыць, нейтралізаваць уздзеянне варожай прапаганды.

Справа гонару кожнага беларуса даваць адпор любой праяве знявагі нашага народа і нашай святой мовы. Хай то будзе неўжыванне афіцыйнымі асобамі нашай мовы, не трэба саромецца нагадаць ім пра іхнюю, па меншай меры, нетактоўнасць, калі неадэкватнасць пасадзе, неўжыванне нашага сцяга і герба, абразлівы артыкул у расейска-камуністычнай газетцы, небеларуская шыльда, парушэнне моўнага рэжыму ў садзе ці ў школе. Ахвяра часта сваімі паводзінамі правакуе злачынцу. Нельга цярпець зняважлівыя выказванні пра нашу мову і наш народ на побытавым узроўні. Беларусафоб мусіць ведаць, што атрымае адпор і рызыкуе добрым настроем. Трэба знаходзіць сяброў і не спускаць свядомым ворагам.

Я не думаю, што сказаў усё пра беларусафобію. Бясспрэчна, патрэбны больш грунтоўныя даследаванні гэтай праявы. Але важна прызнаць і усвядоміць, што гэтая агідная з'ява мае месца на нашай зямлі.

**Мікола БУСЕЛ.**

### ВЕСТКІ З МАГІЛЁВА

## Інспектары вывучаюць беларускую мову

***Прыклад паважлівага стаўлення да дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь паказваюць супрацоўнікі інспекцыі Кантрольнай палаты па Магілёўскай вобласці. З 1 ліпеня 1994 года ўстанова пераходзіць на вядзенне справаводства на беларускай мове. Падрыхтоўка распачалася ўжо зараз. З 1 лютага тут працуюць курсы па вывучэнні беларускай мовы, на якіх займаюцца ўсе супрацоўнікі інспекцыі. Заняткі вядзе Магілёўская філія Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.***

## Успамінаючы Аркадзя Куляшова

***Шырока адзначалася на Магілёўшчыне 80-годдзе з дня нараджэння земляка, народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. У Магілёўскім педінстытуце, які носіць імя знакамітага беларускага літаратара, адбылося ўрачыстае адкрыццё музея «Літаратурная Магілёўшчына». Значную частку экспазіцыі складаюць матэрыялы пра жыццё і творчасць Аркадзя Куляшова. Творчасці паэта былі прысвечаны і чытанні, якія таксама прайшлі ў педінстытуце.***

**Юрась ПІВУНОЎ.**

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: ІДЗЕ АБ'ЕКТЫЎНЫ ПРАЦЭС

***Спецыяльная Дзяржаўная камісія прапанавала на суд грамадскасці «Выніковы дакумент па ўдакладненні правапісу беларускай мовы». Наколькі поўна там адлюстравана і ўлічана тое, аб чым дыскутуюць філолагі? Якія ўвогуле ёсць шляхі да грамадзянскага паразумення ў балючай прабламе, пакінутай беларусам іх таталітарным савецкім мінулым? Наша карэспандэнтка гутарыць з сябрам Правапіснай камісіі ТБМ імя Ф. Скарыны Вінцуком Вячоркам. У тэксце часткова захаваны асаблівасці мовы суразмоўцы.***



**— Спадар Вінцук, вядома, што Вы бескампрамісны прыхільнік той правапіснай традыцыі, якая завецца «тарашкевіцай». Гэта відаць з таго, як Вы пішаце і гаворыце. Калі так, то трэба меркаваць, што Вы пераканаваны ў тым, што зафіксаваны Браніславам Тарашкевічам у 1918 годзе варыянт беларускай мовы ёсць класічны, першародны, калі можна так сказаць, а варыянт «наркомаўкі», якім карыстаецца сёння беларускамоўная большасць насельніцтва, — утварэнне выпадковае, як нараст на дрэве. Хацелася б, каб Вы гэта пацвердзілі фактамі. Гэта па-першае, а па-другое, відавочна, што «тарашкевіца» як моўная правапісная сістэма падтрымліваецца значнымі сіламі беларускіх адраджэнцаў дзесьці з сярэдзіны васьмідзесятых гадоў. На ёй друкуюцца часопісы і газеты. Такім чынам, моўны раскол відавочны. Якое выйсце з гэтага становішча бачыце Вы? І ці не варта прыслухацца да голасу прафесара Уладзіміра Калесніка, які сказаў наступнае: трэба паступова зводзіць абодва варыянты мовы ў мову кадыфікаваную. Сучасная беларуская мова русіфікаваная, саветызаваная, і гэта ў ёй трэба прыбраць. Аднак і правапіс Тарашкевіча кансерваваць — таксама крайнасць. Літаратурная мова павінна быць нарматыўнай, адной для ўсіх. («Наша слова», № 32, 1993.)**

— У чымсьці я аспрэчу шаноўнага прафэсара, хоць у чымсьці ён мае рацыю. Я не дапушчаў бы радыкалізму, не ўжываў бы выразу «трэба зводзіць» — самі звядуцца. Я лічу, што, бясспрэчна, натуральна развівалася клясычная беларуская літаратурная мова, якую кадыфікаваў Тарашкевіч. А яе савецкі варыянт — сапраўды выпадковы парастак. Калі б палітычныя ўмовы склаліся іншым чынам, дык ствол клясычнай беларускай мовы так бы і рос, не дапушчаючы пабочных адгалінаваньняў. Тым ня менш натуральна, што наяўнасць савецкага варыянту і вялікага корпусу тэкстаў, створанага на ім, і вялікага кола людзей — некалькіх генэрацыяў — што вучыліся на савецкім варыянце, паўплывае, як месяц на акіян, калі будзе нейкае канчатковае ўпарадкаванне. Цяпер жа ў нас такі стан, што, калі мы адраджаем, перакідваем масток у нашу несавецкую культурную мінуўшчыну, то аб'ектыўна атрымліваецца, што з вяртаннем культурнай спадчыны — забытага, забароненага, замоўчанага — мы вяртаем і клясычную літаратурную мову. Бясспрэчна, што кансэрваваць зафіксаванае Тарашкевічам, каб і хацелі, не атрымаецца. Тым больш, што прыкмечаная і апісаная ім моўная норма развівалася плённа, будзем лічыць, да трыццатага году ў савецкай Беларусі і да трыццаць дзевятага — у Заходняй. Потым яна аднавілася ў пару акупацыі і працягвала развівацца ў беларускіх асяродках за мяжою. Адзначу, што за гэты час адбылася поўная сыстэматызацыя, узбагачэньне сынанімічных шэрагаў, удакладненне граматычных формаў, спрэчных напісанняў. Прыкладам, цяпер мы ўсюды захоўваем «аканне» (пераход *о* ў *а* ў словах іншамоўнага паходжання). Хоць Тарашкевіч яшчэ пісаў «філёлёгія», «поэзія», мы пішам: «філялёгія», «паэзія». Так што нельга лічыць, што «тарашкевіца» — застылая, яна — жывая. Змены ў клясычным нашым правапісе адбываюцца.

Што ж да савецкага варыянту, то сёння нават самым зацятым адэптам прынцыпу «нічога не мяняць» стала зразумела, што мяняць трэба многае. Хто гэтыя адэпты? Гэта людзі, якія ўсё сваё прафэсійнае жыццё баранілі саветызацыю мовы. Ім цяпер не выпадае прызнаваць, што яны баранілі не тое. Апраўдвалі скон, а не жыццё. І мяне цешыць, што Дзяржаўная камісія, якая працуе зараз над удакладненнем правапісу і ў складзе якой фактычна няма прыхільнікаў альтэрнатыўнага погляду, рэкамендавала разгледзець шмат пытанняў, якія стыкуюцца з клясычнай правапіснай традыцыяй. Большасць прапановаў Дзяржаўнай камісіі раней распрацавала Правапісная камісія нашага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны на чале з прафэсарам Генадзем Цыхуном.

**— Сапраўды, разнабой у мове зайшоў вельмі далёка. Пры адсутнасці дапаможнікаў цяжка карыстацца правапісам Тарашкевіча, а ў адносінах да «наркомаўкі» дапускаецца неапраўданае наватарства і нігілізм. Скажыце, у якой меры Вас задавальняе «Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай мовы», што публікаваўся ў «Нашым слове»?**

— Мне даспадобы, што саветызаваны варыянт набліжаецца да клясычнае літаратурнае мовы. А што бянтэжыць? Несыстэмнасць. Прапануецца ўпарадкаваць артаграмы, выхапленыя з розных пластоў правапісу. Калі ўжо прапануецца ісці ў кірунку фанэтызацыі перадачы звычных на пісьме ў межах слова (*сьпеў*), дык лягічна было б спрасціць вядомае настаўнікам правіла-монстр і аднастайна пісаць *латыскі, таварыскі, таджыцкі, узбецкі* — як, зрэшты, і вымаўляецца. Што яшчэ? Не ведаю, ці мэтазгодна выносіць пытанні на масавае абмеркаванне. Прапануюцца, напрыклад, чатыры варыянты абазначэння асыміляцыйнай мяккасці. Як потым улічваць прапановы? Большасцю галасоў? Але ж тут не колькасць лістоў павінна вырашаць, а кампэтэнтнасць, паразуменне паміж носьбітамі мовы і тымі, хто ўплывае на аблічча мовы. Зразумела, што пярэчыць любым — нават самым натуральным і абгрунтаваным — зменам будзе большасць настаўнікаў: каму ахвота перапісваць старыя добрыя канспэкты? Настаўнікі і ў 1933 г. пратэставалі. Ёсць іншая праблема. Нават, здавалася б, кампэтэнтныя людзі — пісьменнікі, філёлягі — часам дэманструюць на старонках друку няведанне. Правапіс беларускай мовы павінен быць просты, з мінімумам выключэнняў; тады і мова нашая будзе, выбачайце за слоўца, канкурэнтаздольная. Пісаць *дзевяты* і *сямнаццаць* гэтак сама як *зялёны* — значыць спрасціць правіла, але філёляг з Паўночнай Беларусі пратэстуе: на ягонай радзіме, бач, так не гавораць. Дык жа літаратурнае вымаўленне розніцца ад дыялектнага, літаратурная артаэпічная норма вымагае моцнага недысыміляцыйнага якання.

Славутаму драматургу і рэдактару часопіса «часціца *ня* і прыназоўнік *бяз* рэжуць слых». Бяда, калі пісьменніку такога ўзроўню рэжа слых абавязковая норма беларускага вымаўлення: казаць «ня буду; бяз гора» у першым складзе перад націскам трэба незалежна ад таго, якім правапісам чалавек карыстаецца — бліжэйшым да гукавога аблічча слова Тарашкевічавым ці зрусіфікаваным савецкім. Вынік няздобры. Рэдагаваны гэтым пісьменнікам часопіс ужывае ўвогуле нябачаны правапіс: нешта, што ўпадабаў рэдактар,— з клясычнага, нешта — з савецкага. Я супраць такога тварэння новых субварыянтаў на рэдактарскі густ. І вазьміце «Нашу ніву»: можна крытыкаваць яе за паслядоўную вернасць клясычнаму правапісу, але, згадзіцеся, мова там дасканалая ў багацці і цэласці. Моўнае ж аблічча «Нашай нівы» вызначаюць прафэсіяналы, у тым ліку прафэсійны лінгвіст Сяргей Шупа.

**— Ці пазбавімся мы двухварыянтнасці правапісу ў бліжэйшы час?**

— Разыходжанні абодвух варыянтаў тычацца не толькі правапісу, але і граматыкі. Калі мы маем стандартнае вымаўленне, ведаем, што трэба казаць *сьпеў* і *цьвік*, як бы там ні пісалася, то гэта невялікая праблема, тым больш, што ў многіх мовах свету існуюць правапісныя варыянты. Прычына значных разыходжанняў у граматыцы літаратурнай мовы. У ёй гэтулькі русыфікацыйных зменаў было, звязаных з загадным ладам, з формамі назоўнікаў, лічэбнікаў (*ганéце — ганíце, у садóх — у садáх, пяцёх — пяцí*). Маем велізарныя кантрасты ў лексыцы паміж клясычнай літаратурнай мовай і яе саветызаваным варыянтам. Мне не даспадобы, калі чалавек ставіць на пісьме мяккі знак, замест «ло» піша «лё» і лічыць, што ён ужо вярнуўся да спрадвечных каранёў, у той час як яго мова насычана русізмамі, палянізмамі, калькамі (*будучае, накірунак, пляцак, адзінаборства* і г. д.).

**— Дарэчы, пра «лё». На маёй бацькаўшчыне — Навагрудчыне яно не заўважаецца ў гаворцы жыхароў.**

— Ці так? А даўно пазычаныя *клямка, лямпа, лёк?* Хоць не багата было ў мове вяскоўцаў лацінізмаў ды германізмаў, якія патрабавалі такога вымаўлення, але крыху было! Аргумэнт «у нас так не гавораць» не пераканаўчы. У беларускай вёсцы дваццатых гадоў не гаварылі ані «філязофія», ані «філасофія», ані «перыяд», ані «пэрыяд», таму што такіх словаў у дыялектнай мове не было. У беларускай мове ёсць «л» цвёрдае і мяккае, ёсць свае спрадвечныя словы «луста» і «люблю», «лён» і «лоб». А лацінізмы і германізмы наша мова пазычала да часу масавай палянізацыі. Заходняе l — не мяккае, а «сярэдняе», і беларусы адаптавалі ўсе запазычанні — і з заходніх моваў, і з польскай — на свой лад, кажучы на месцы гэтага спэцыфічнага l — сваё «ль». Многія словы траплялі беспасярэдне з лацінскай мовы. Шкаляр, чуючы ад настаўніка «ок*u*laris», натуральна рабіў з гэтага слова «акуляры», а не «акулары». Мы гаворым «лямант», а не «ламент»,— таксама даўно запазычанае з лаціны слова. Возьмем народную форму імёнаў, што прыйшлі праз лацінскае пасярэдніцтва. На ўсходзе Беларусі скажуць «Сідар», на захадзе — «Зыдар». Жыхар Заходняй Беларусі пацвердзіць, што ягоныя бацькі і дзяды казалі «мэтар» і «газэта», а не «метр» і «газета». З германцамі мы непасрэдна кантактавалі яшчэ з полацкіх часоў, з лацінскай мовы запазычанні ішлі праз школу, адукацыю, царкву. Што да расейскай мовы, то тут традыцыя запазычанняў іншая — праз кнігу, паколькі папярэдніх кантактаў з эўрапейцамі, з іхнімі мовамі ў іх практычна не было. Таму ў расейскай мове назіраецца жахлівы разнабой і непаслядоўнасць правапісу і вымаўлення іншамоўных словаў: «Финляндия», але «Голландия», «шинель», але «Н[э]лли», «алюминий», але «лантан», «флора» і «флёр» і г. д. Рэзюмуючы, можна сказаць так: корпус словаў іншамоўнага паходжання ў клясычнай беларускай мове захоўвае пазначанасць, ці маркіраванасць, прыналежнасці да агульнаэўрапейскага культурна-моўнага арэалу, а ў сучаснай беларускай літаратурнай мове ўзору 1933 г. гэтага няма, бо яе гвалтам прымусілі ўзяць з расейскай усе гэтыя непаслядоўнасці.

**— А ў мяне такое ўражанне, што класічны варыянт у меншай меры захоўвае асаблівасці напісання іншамоўных слоў, чым варыянт сучаснай мовы. Возьмем, напрыклад, правапіс злучэнняў галосных *іо* ў канцы слоў (*Токіо*) і на пачатку ўласных імёнаў і геаграфічных назваў (*Нью-Йорк*), літар *э, е* ў ненаціскных словах (*рэзідэнцыя, медаль*).**

— У тым і вартасць клясычнага беларускага правапісу запазычанняў, што ён мае дакладную сыстэму перадачы іншамоўных галосных і зычных па-беларуску. «Л» не ў канцы асновы заўсёды мяккае, ня так, як па-расейску; зычныя перад «э» заўсёды цвёрдыя; што ж да перадачы збегаў галосных, дык мы ж ведаем, як іх «ня любіць» беларускае літаратурнае вымаўленне і якое складанае «савецкае» правапіснае правіла (*іон, але аніён; акіян, але ідэалогія*). Калі ўжо ў вымаўленні непазбежна маем устаўны *ј* (ёт) — дык давайце яго стандартна пазначаць: *іён* — як *катыён, Токіё* — як *радыё*. Маем літару *ё*, што можа значыць *ј+о* — чаму ня пішам *Ёрк?*

Што да *э* ненаціскнога ў запазычаннях, дык гэта толькі браты Лёсікі ў дваццатыя гады прапаноўвалі пісаць «дапо» і «дабаркадар». Пераход *э* ў *а* не пад націскам — не такі ўсеагульны, як *о* ў *а* (яканне таму прыклад). Перад націскам *э* ў запазычаннях, як правіла, застаецца, бо інакш слова будзе непазнавальнае. А вось пасля націску ў фіналях можна аднастайна «акаць» (*ваўчар, містар, шніцаль*).

**— Памятаецца, мы гаварылі пра двухварыянтнасць беларускай мовы. Дык ці хутка ад яе пазбавімся?**

— Думаю, што не хутка, і баяцца гэтага не выпадае. Збліжаецца лексычны склад. У «савецкім» варыянце канчаткова прыжыліся і ўзбагацілі мову словы «спадар», «мытны», «наступствы», «гаспадарства», «задзіночанне», «ачоліць», «сумнеў» і г. д. А факт адраджэння клясычнага правапісу і граматыкі беларускай мовы — аб'ектыўная рэальнасць. Да гэтай мовы вяртаецца моладзь,— прычыны тут культурныя, сацыяльныя, псыхалягічныя. Я думаю, што пэўны час будуць існаваць абодва варыянты, і гэта не трагічна, бо набліжэнне «савецкага» варыянту да клясычнае мовы будзе адбывацца, але прыспешваць працэс гвалтам не трэба. Як нельга гвалтам «прыкрываць» і варыянт клясычны. Лепш ісці да грамадзянскага паразумення, талерантна ставіцца да таго, што тое або іншае выданне выходзіць не на «наркомаўцы». Іншая рэч, што я не хацеў бы, каб з'яўлялася бясконцае мноства прамежкавых варыянтаў. Ужо лепей спарадкаваць тыя, што ёсць, і нейкія крокі спакваля рабіць насустрач.

**— Як працуе Правапісная камісія ТБМ на вырашэнне набалелых моўных пытанняў і які Ваш уклад у яе работу? Наколькі гэта камісія прафесійная? Ці захоўвае яна пераемнасць з былой Камісіяй беларускай мовы, што існавала пры фондзе культуры?**

— Правапісная камісія — адна са спэцыялізаваных камісіяў агульнабеларускага маштабу, што былі створаны Таварыствам. Як вы памятаеце, на яго з'ездзе было створана некалькі камісіяў: тэрміналягічная, тапанімічная, адукацыйная, па культуры мовы, правапісная і інш. Камісія пры фондзе культуры была шырокім згуртаваннем людзей, якія змагаліся за вяртанне мове яе функцыянальнай пашыранасці, а камісія ТБМ вырашала і вырашае канкрэтныя задачы. Яе ўзначальвае прафэсар Цыхун, які добра арыентуецца ў славянскім і эўрапейскім рэгіянальным кантэксце маладых моваў, лёсам падобных да нашай. У складзе камісіі — актывісты ТБМ, кампэтэнтныя людзі, прадстаўнікі навуковых, журналісцкіх, настаўніцкіх асяроддзяў, у тым ліку намеснікі старшыні ТБМ Зьміцер Санько і Сяргей Запрудскі, дырэктар Інстытута мовазнаўства Аляксандр Падлужны, кандыдаты філялягічных навук Ала Сакалоўская, Алесь Яскевіч, Ян Войніч і інш. Мы працавалі паўтара года ў напружаным рытме, выпрацавалі грунтоўныя прапановы, якія былі разгледжаны і зацверджаны на III з'ездзе ТБМ як рэкамэндацыі ўсяго Таварыства будучай Дзяржаўнай камісіі па ўпарадкаванні правапісу, што неўзабаве з'явілася. Правапісная камісія разглядала не толькі наяўныя разыходжанні паміж «савецкім» і клясычным правапісам, але і артаграмы, якія не былі ўпарадкаваныя і сыстэматызаваныя ў абодвух варыянтах беларускага правапісу. Да прыкладу, калі гаварыць пра словы іншамоўнага паходжання, то мы пасля іх аналізу пераканаліся, што канчатковыя часткі многіх запазычанняў (фіналі), якія выглядаюць як *-эр, -эль*, дастаткова лёгка і без шкоды для разумення адаптуюцца, а ў пасьлянаціскным становішчы іх можна перадаваць праз *-ар* (*ваўчар*, а не *ваўчэр*). Гэты *-ар* успрымаецца як суфікс (у беларускай мове маем, прыкладам, *камінар*), і праблемы з ідэнтыфікацыяй слова не паўстае. Гэтую прапанову правапіснай камісіі, як бачым, прыняла і вынесла на абмеркаванне Дзяржаўная камісія. Мы абмяркоўвалі таксама ўсё, што звязана з правапісам уласных беларускіх словаў, і перадусім тыя аспэкты правапісу, дзе ёсць разыходжанні паміж яго варыянтамі. У цэлым камісія працавала плённа і ахвярна, усіх нас яднала натхненне, супольная рупнасць за лёс мовы.

**— Вы працуеце і ў галіне тэрміналогіі?**

— Рэальны стан мовы вымушае мяне займацца тым, што практычна трэба. Калі цяпер сотні людзей — не мовазнаўцы — узяліся ствараць слоўнікі, то мусіць жа ім прафэсійны мовазнаўца дапамагчы. Мне давялося рэдагаваць некалькі кніжак А. Місуны — яго зборнікі задачаў і слоўнік да бухгалтарскага ўліку. Супрацоўнічаў я і з прафэсарам М. Савіцкім — рэдагаваў ягоны слоўнік да кампутарнай і вылічальнай тэхнікі; супрацоўнічаў з матэматыкамі, якія згуртаваліся ў матэматычны сэмінар пры тэрміналягічнай камісіі ТБМ і выдалі слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ, які, на маю думку, ёсць якасна новым крокам у беларускай тэрмінатворчасці. Ён аб'ёмны і працягвае традыцыі тэрміналягічнай спадчыны дваццатых гадоў. Гэты слоўнік (аўтары Т. Сухая і інш.), безумоўна, паўплывае на матэматычную лексыку, якая ўжываецца ў сярэдняй школе. І мы пазбудземся ўсіх гэтых «прэдзелаў», «складаемых», «адымаемых» і інш.

**— Сёння наша грамадства перажывае сапраўдныя сацыяльныя катаклізмы. На шалі пакладзены лёс дзяржавы і лёс культуры. Чым Вы збіраецеся займацца ў бліжэйшы час?**

— Палітычнай дзейнасцю і беларушчынай. Усё можна будзе вярнуць, усё можна будзе адрадзіць — складана будзе вярнуць незалежнасць. Здабыўшы — не аддамо.

**Распытвала**
**Ірына КРЭНЬ.**

*Старыя беларускія гімназіі*

# З РАДАШКОВІЧ ПРАЗ МЯЖУ Ў БССР...

***Вучням беларускіх гімназій у Заходняй Беларусі выпала жыць на эпахальным зломе грамадска-палітычных дактрын, у часе сусветных і лакальных войнаў, рэвалюцый і раз'юшанай нацыянальнай дыскрымінацыі беларусаў. Паняволеная палякамі і расейскім бальшавізмам Беларусь не магла быць рэальнай Бацькаўшчынай і апірышчам для носьбітаў беларускай нацыянальнай ідэі. Аб'ектыўна гэткі комплекс «пустадомства» ў многіх удзельнікаў беларускага руху спараджаў ілюзіі пра наяўнасць у той або іншай частцы Беларусі — Заходняй ці Усходняй — лепшых умоў для рэалізацыі сваіх ідэй і агульных адраджэнскіх задач. Гэтак многім свядомым беларусам у БССР і СССР падпольскае існаванне здавалася лепшай альтэрнатывай падсавецкаму рэжыму. Некаторыя нават адважваліся на ўцёкі ў Заходнюю Беларусь.***

***Але ўсё ж пераважаў паток сустрэчны — з Заходняй Беларусі ў БССР. У краіну Саветаў людзей вабілі распрагандаваныя дэкларацыі сацыяльных і нацыянальных правоў і гарантый. З размахам на нацыянальна свядомую частку беларусаў савецкі прапагандысцкі апарат рэкламаваў ажыццяўленне беларускай дзяржаўнасці ў форме БССР. Ілюзія «будавання Беларускага Дома» трывала ўвайшла ў свядомасць многіх беларусаў Польшчы, Летувы, Латвіі, Чэхаславаччыны. Як вынік,— пярэбары ў БССР з беларускіх асяродкаў Вільні, Гродна, Коўна, Рыгі, Варшавы, Прагі, Дзвінска ды іншых мясцін. Дзеячы-інтэлігенты ехалі ў савецкі Менск у купэ міжнародных вагонаў з атрыманымі ў пасольстве СССР візамі. Тыя, хто не меў магчымасці легальна выехаць,— сяляне, моладзь, дзеячы падпольных камсамольскіх і камуністычных арганізацый, малаадукаваныя альбо непісьменныя людзі, рызыкуючы трапіць у рукі пагранічнікаў ці паліцыі, пераходзілі дзяржаўную мяжу нелегальна. У СССР існавала Таварыства палітэмігрантаў Заходняй Беларусі з цэнтрам у Маскве і філіямі ў Менску, Смаленску, Уладзіміры ды іншых гарадах.***

***Сярод палітэмігрантаў шмат было вучняў беларускіх гімназій з Вільні, Клецка, Навагрудка, Радашковіч. У дваццатых гадах значная частка вучняў гэтых гімназій удзельнічала ў працы падпольных камсамольскіх груп. Уціск польскімі ўладамі беларускага руху ўзмацняў антыпольскія настроі моладзі і спрыяў пашырэнню пракамуністычных настрояў і спадзяванняў на дапамогу ў барацьбе з савецкага Усходу. Ідэйныя перакананні, жаданне працягваць навуку ў ВНУ або пазбегнуць крымінальнай адказнасці за антыпольскую дзейнасць былі галоўнай прычынай уцёкаў гімназістаў у БССР.***

***Лёсы перабежчыкаў амаль без выключэння складаліся незайздросна. Рана ці позна яны станавіліся ахвярамі імі ж абранай ідэалогіі і грамадскага ладу. З дапамогай архіўных ды мемуарных крыніц надарылася магчымасць раскрыць імёны і лёс двух гімназістаў з Радашковіч.***

## Альжбета Далінская

У абласным дзяржаўным архіве г. Смаленска сярод матэрыялаў па гісторыі рэгіянальнага беларускага нацыянальна-культурнага руху дваццатых гадоў захоўваецца ліст колішняй жыхаркі Маладзечна Альжбеты Далінскай.

На пачатку лета 1926 года яна пісала ў Беларускую секцыю пры губернскім аддзеле народнай асветы:

«Пасьля сканчэньня Радашкаўска-беларускай гімназіі пры немажліва цяжкіх матэрыяльных абставінах я 20/V 1926 году перайшла беларуска-польскую мяжу і засталася ў свайго брата, які працуе лектарам у Заходняпяхотнай школе Мясьнікова ў горадзе Смаленске. Сваёй адзінай мэтай паставіла працягнуць сваё разьвіцьцё ў цэнтры Белар. Савецкай культуры ў Менску, жадаючы ахвяраваць сябе працэ на беларускай ніве. Смол. Г.П.У. дзеля пераходу мяжы, на фармальных асновах мне не дазваляе выехаць за межы Смаленска, а гэта можа працягнуцца якія паўгодкі, ды вось, каб не змарнаваць год прашу прыняць мяне на беларуска вучыцельскія курсы. /.../ Пры гэтым даручаю атэстат». (Дзярж. архіў Смал. вобл. ф. 19, воп. 1, спр. 4287, арк. 14).

Загадчык секцыі зацвердзіў А. Далінскую вольным слухачом на згаданых курсах. Яны адбываліся ў Смаленску ў ліпені — жнівені таго ж года, але гімназісткі-перабежчыцы сярод курсантаў не было. Відаць, з нейкіх прычын яна не прыступілася да вучобы.

Нямаведама, як склаўся яе далейшы лёс, ці ўдалося ёй вызваліцца з-пад апекі карнага ведамства ГПУ? Малаверагодна, што ГПУ-НКВД зусім выпусціла з поля зроку перабежчыцу з Радашковіч. У СССР досвед несавецкага жыцця і беларускасць кваліфікаваліся як злачынствы.

## Язэп Багданскі



У Цэнтральным дзяржаўным архіве Беларусі (былым архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі) захоўваецца справа студэнта БДУ Язэпа Багданскага. Ён нарадзіўся 14 жніўня 1903 года ў Радашковічах. Там жа напачатку дваццатых гадоў скончыў Беларускую гімназію. Неўзабаве нелегальна перайшоў праз мяжу ў БССР. Здаецца, яго жыццё ў сталіцы савецкай Беларусі складалася няблага. Улетку 1924 года ён паступіў вучыцца на педагагічны факультэт універсітэта. Жыў у Менску ў інтэрнаце для палітычных эмігрантаў Заходняй Беларусі, атрымоўваў дапамогу ад рэспубліканскай філіі МОПР (Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам). Аднак гэта была толькі адтэрміноўка трагічнае развязкі.

Вядомы дзеяч Яўхім Кіпель у сваім артыкуле «Студэнцтва Беларускага дзяржаўнага універсітэту ў Менску (пачатак 1920-х гадоў)» (часопіс «Беларуская моладзь», № 9, 1961, Нью-Йорк) згадаў і Язэпа Багданскага. «Нельга... ня ўспомніць групы студэнтаў,— пісаў Я. Кіпель,— якая аднэй зь першых пала ахвярай бальшавіцкага пагрому нацдэмаў у 1930 г. У БДУ вучылася ладная група студэнтаў (чалавек дваццаць) з Заходняе Беларусі, якая мела некаторыя «заслугі» перад савецкай уладай: у свой час гэтыя студэнты былі павадырамі савецкіх партызанаў у Заходнюю Беларусь. Калі ў Менску пачаліся арышты й бальшавікі запланавалі стварыць працэс нацдэмаў, камуністыя запатрабавалі, каб гэтыя студэнты выступілі ў друку супраць нацдэмаў. Студэнты адмовіліся гэта зрабіць. За адну ноч іх усіх арыштавалі і расстралялі. Я добра ведаў зь іх двох і іхныя прозьвішчы памятаю — гэта Язэп Багданскі й Хведаровіч». Гэткі ўспамін паставіў апошнюю кропку ў біяграфіі уцекача з Радашковіч у БССР Язэпа Багданскага. Вера ў камуністычную будучыню каштавала яму жыцця, «Беларускі Дом» аказаўся смяротнай пасткай.

Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.

*Замежжа*

# ЦІ БЕЛАРУСЫ ГІНУЦЬ У ЮГАСЛАВІІ?

**Ужо колькі часу ўсіх нас непакояць трагічныя падзеі ў Югаславіі. Грамадзянская вайна, якая цягнецца там, збірае сваё крывавае жніво.**

**Паведамленні з месца падзей у газетах, праграмах радыё і тэлевізіі чаргуюцца з інфармацыямі аб нацыянальным кангламераце, які заўчасна атрымаў назву югаславы. Цяпер кожны ведае, што, акрамя сербаў і харватаў, там ёсць славенцы, баснійцы, чарнагорцы, македонцы. Але асобныя рэспублікі Югаславіі населены таксама рознымі нацыянальнымі меншасцямі, у тым ліку беларусамі.**

**Паводле дадзеных перапісу 1971 г. ў Югаслаўскай дзяржаве сваю прыналежнасць да беларусаў абвясціла каля 25 000 грамадзян. Для параўнання: тады ж у Югаславіі пражывала 3 000 палякаў, 13 000 украінцаў, а таксама 7 000 расійцаў. Большасць беларусаў насяляе ваколіцы Бачкі ў аўтаномнай акрузе Ваяводзіна, а таксама Славенію, жывучы ўздоўж абодвух берагоў Дуная. Прысутнасць беларусаў на землях паўднёвых славян — вынік даўняга акта каланізацыі яшчэ ў час Аўстра-Венгрыі, але аўтару гэтых радкоў невядома дакладна, калі і якім чынам нашы землякі трапілі ў далёкую Ваяводзіну, на сербска-харвацка-венгерска-румынскае сумежжа. Найбольш верагодна, што югаслаўскія беларусы, званыя там русінамі, прыбылі з абшару цяперашняга Палесся, бо менавіта цяперашнім жыхарам Палесся яны найбольш блізкія. Гісторыя іх перасялення выклікае болей пытанняў, чым мы сёння можам даць адказаў.**

**Статут Ваяводзіны 1963 года гарантаваў беларусам, як і іншым нацыянальным меншасцям — венграм, славакам, румынам, — роўныя правы і абавязкі. Згодна з гэтым дакументам нацыянальныя меншасці мелі права карыстацца сваімі мовамі, развіваць сваю культуру, ствараць арганізацыі, дазволеныя законам. Для прыкладу, на пачатку 70-х гадоў беларусы мелі сваіх прадстаўнікоў у парламенце Ваяводзіны. Дзеці вучыліся ў беларускіх школах, хаця ў тым часе было адзначана змяншэнне колькасці навучэнцаў — верагодна гэта было вынікам асіміляцыі. У 1966/67 акадэмічным годзе студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў Югаславіі было каля 300 беларусаў, а ў мясцовасці Рускі Крстур выходзіў беларускі тыднёвік з назвай «Рускае слова».**

**Гэта — звесткі некалькігадовай даўніны. Якімі сталі цяпер беларусы-русіны, насяляючыя Югаславію? Ці грамадзянская вайна закранула і гэту групу насельніцтва?**

**Анджэй МАЦЭНЬКА.**
**«Часопіс» (Беласток).**

# «ПРАМЕНЬ» — ЧАСОПІС БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**Менавіта з ласкавым сонечным цяплом хочацца параўнаць часопіс Згуртавання беларусаў у Квэбэку «Прамень». Нядаўна да нас прыйшоў трэці нумар гэтага выдання, якое ўбачыла свет напрыканцы мінулага года. «Прамень» адкрываецца вершаваным эпіграфам Якуба Коласа:**

***Змоўкні ты, сціхні, песня пакуты,***
***Заварушыся, наш край.***
***Люд беларускі, рві свае путы,***
***Новую песню спявай.***

**Якія ж грамадскія клопаты турбуюць нашых землякоў у далёкай Канадзе? У рэдакцыйным звароце да чытачоў гаворыцца: «Бліжэйшай мэтай для беларускай грамады ў Манрэалі, для Згуртавання беларусаў у Квэбэку з'яўляецца пытанне аб набыцці будынка. У ім мяркуецца размясціць Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтра. Хіба ж дрэнна, калі ў свеце будзе яшчэ адзін астравок беларускасці? Мы плануем стварыць сваю беларускую царкву, дзе богаслужэнне будзе... на нашай беларускай мове, дзе казанні будуць зразумелыя кожнаму верніку, дзе, нарэшце, мы ўсе, супольна, будзем маліцца за нашую Бацькаўшчыну. Мы плануем стварыць свой беларускі культурны цэнтр, дзе будзем праводзіць выставы беларускіх мастакоў, дзе будуць дэманстравацца фільмы, створаныя на беларускіх кінастудыях, як мастацкія, так і дакументальныя. У гэты культурны цэнтр мы маглі б запрашаць мастацкія гурткі з Беларусі, мастацкія гурткі, створаныя нашай беларускай дыяспарай. Мы плануем абнавіць наш беларускі хор «Жалейка».**

**Словам, планаў у канадскіх беларусаў надзвычай шмат. І ўсе яны скіраваны на пашырэнне беларускасці.**

**«Прамень» адкрывае для чытача цікавага публіцыста Рамана Кардонскага. У часопісе змешчана некалькі яго матэрыялаў — «Як нам не ўдалося адсвяткаваць «Дзень герояў», «А што мне тая Беларусь?» і шэраг іншых. Балючымі развагамі адгукаюцца ў душы такія словы публіцыста: «Чаму мы не захоўваем той прыклад ахвярнасці, які дэманструюць лепшыя людзі нашай эміграцыі — Уладыка Мікалай, айцец Алесь Надсан, пісьменнік Кастусь Акула, спадарыня Івонка Сурвіла, інжынер Алесь Сільвановіч... Няўжо нават думка і веды аб тым, што пад пагрозай — будучыня нашага Беларускага народа не пазбаўляе вас духоўнай раўнавагі? Калі не, дык няхай выбачыць вам Бог!»**

**«Прамень» (калі меркаваць па трэцім нумары) мае падкрэслены і выразны публіцыстычны характар. Часопіс інфармуе сваіх чытачоў і пра становішча на Беларусі. Праўда, на жаль, беларускія газеты ў Канадзе атрымліваюць з двухтыднёвым спазненнем. І ўсё ж часопіс імкнецца, каб інфармацыя з Бацькаўшчыны была актуальная і злабадзённая.**

**У трэцім нумары беларускага часопіса змешчана і шмат перадрукаў. У прыватнасці, з гарадзенскай газеты «Пагоня», з «Астравецкай праўды», з «Літаратуры і мастацтва».**

**Сярод іншых матэрыялаў нумара выклікае цікавасць і адкрыццё «Праменем» самабытнага манрэальскага паэта Валодзі Бельмача. Часопіс знаёміць з яго вершам «Вясна».**

**Ганна ЦІТАЎКА.**

## 22 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ К. КАЛІНОЎСКАГА

# ЗАПАВЕТ ЗМАГАРА

***Роўна 130 гадоў назад у нашай гістарычнай сталіцы Вільні ад рукі царскіх катаў загінуў нацыянальны герой Беларусі Кастусь (Канстанцін) Каліноўскі (2.2.1838—22.3.1864). Гэта трагічная падзея адлюстравана ў адной з сакрэтных жандарскіх праваздач, накіраваных з Вільні 10 сакавіка (паводле старога стылю) 1864 года шэфу Трэцяга аддзялення князю В. А. Даўгарукаву. Згаданы дакумент застаецца малавядомым шырокаму чытачу, таму на мове арыгінала друкуем яго цалкам.***

**«Сего числа в 10 ч утра на торговой площади в Вильне, при многочисленном стечении народа, казнен смертью повешанием дворянин Гродненской губ. кандидат С.-Петербургского университета Викентий Константин Калиновский, проживавший в Вильне под разными именами, а последнее время под именем Игнатия Виторженца.**

**Калиновский, один из главных деятелей тайной польской организации на Литве, был сначала комиссаром Гродненского воеводства, потом секретарем при главном комиссаре Литвы Несторе Дюлеране и, наконец, после бегства последнего в августе минувшего года, приняв на себя обязанность главного руководителя мятежа в крае, издавал от имени польского жонда революционные воззвания и распоряжения, выдавал номинации (дакументальныя пасведчанні. — М. В.) начальникам шаек, снабжал их деньгами и был в постоянных сношениях с революционным правлением в Париже и Варшаве.**

**О чем почтительно имею честь донести в(ашему) с(иятельству).**

**За отсутствием штаб-офицера начальника виленской жандармской команды штабс-капитан (подпись)».**

**Сярод друкаванай і рукапіснай творчай спадчыны, пакінутай свайму народу гэтым выдатным беларускім змагаром, сёння часцей за ўсё называюць «Мужыцкую праўду» — антыўрадавую беларускамоўную газету для сялян, якая нелегальна распаўсюджвалася на Бацькаўшчыне ў 1862—1863 гадах. Але з поўным зместам усіх сямі нумароў згаданай газеты дагэтуль азнаёміцца не проста, бо ў БССР яны друкаваліся толькі двойчы: у 1928 годзе (публікацыя С. Агурскага ў кнізе «Очерки по истории революционного движения в Белоруссии») і адносна нядаўна — часопісам «Маладосць» (1988 г., № 1, падрыхтоўка да друку А. Гаўрона). Старанна ж адабраныя вытрымкі з «Мужыцкай праўды», змешчаныя ў розных даследаваннях, даведніках, хрэстаматыях мінулых гадоў, стваpаюць, на жаль, вельмі аднабаковае, а, значыць, скажонае і наўмысна сфальсіфікаванае ўяўленне аб газеце і аб гістарычнай постаці К. Каліноўскага ўвогуле.**



**Чаму ж палкіх слоў змагара гэтак баяліся бальшавіцкія ўлады? Зараз можна адказаць адназначна: найбольшы спалох выклікалі неадзінкавыя выказванні Каліноўскага, якія адкрывалі беларусам вочы на тое, што Бацькаўшчына можа здабыць сабе сапраўдную вольнасць толькі пасля канчатковага вызвалення з задушлівых маскоўскіх абдымкаў. Але найбольш рашуча і завострана такія думкі Каліноўскага прагучалі ў ягоных развітальных, надрыўна-прачулых пасланнях да народа, вядомых спецыялістам пад назвай «Лісты з-пад шыбеніцы». Пасланні сталі своеасаблівым палітычным і, падкрэслім, прароцкім запаветам нацыянальнага героя Беларусі. Не дзіва, што ў БССР яны доўга замоўчваліся, іх першую публікацыю ў названым нумары «Маладосці» ажыццявіў шэсць гадоў назад Я. Янушкевіч. Пасланні, якія па-польску ўбачылі свет яшчэ ў 1867 годзе ў Парыжы, нават афіцыйна абвяшчалі фальшыўкай. Але адносна нядаўна ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава) наш даследчык У. Казбярук знайшоў аўтограф апошняга «Ліста з-пад шыбеніцы».**

**Вось толькі некалькі вытрымак з гэтага дакумента — запавету К. Каліноўскага сваім сучаснікам, але ў большай ступені — нам, грамадзянам фармальна незалежнай ужо Беларусі, якія, на жаль, пакуль яшчэ не вярнулі сабе ўласную гістарычную памяць:**

**«Браты мае... родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці, і можа раз астатні... Но як дзень з ноччу не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з нявoляй. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва... — адно намі як скацінай варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу...**

**Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе».**

**Будзем помніць Каліноўскага!**

**Мар'ян ВІЖ.**

***Алесь РАЗАНАЎ***

# Арышт Кастуся Каліноўскага

***Аблога...***
***Крокі...***
***Ляск...***
***Прыцемненыя сцены,***
***і дрогкай свечкі бляск,***
***і на парозе цені.***
***І месяц паўз акно***
***слізне, як паражэнец —***
***на схіл усё адно...***
***Як завуць вас?***
***Вітажэнец.***
***Утойваюць муры,***
***сцяроіжкі бор таемны***
***да іншае пары***
***імя яго нядрэмна.***
***Да іншае пары***
***пакінуты сякеры,***
***да іншае пары***
***сышлі касіянеры.***
***І запазычан край,***
***і аціхаюць знічы...***
***Хавай,***
***хавай,***
***хавай***
***сапраўднае абліччa!***
***О, наступ нематы —***
***нябога... выраджэнец...***
***І ўжо знікаеш ты...***
***Няма ўжо...***
***Вітажэнец...***
***Ні вучняў, ні сяброў...***
***Сарвецца шлях памглёны...***
***Як волю і любоў,***
***дае нам час***
***імёны.***
***Учэпліцца...—***
***з пятлёй —***
***не выбіцца...—***
***ажэняць...***
***Па той бок — што па той?..***
***Па гэты —***
***Вітажэнец.***
***Заўжды — адзін адказ,***
***утойванне... змяншэнне...***
***Але прыходзіць час***
***імя і ўваскрашэння.***
***Усе ніты ў сувой,***
***у заклік пагалоскі***
***з'яднаць —***
***і стаць сабой!..***
***Як завуць вас?***
***Каліноўскі.***

*Чыталі?*

# Назвы археалагічных помнікаў

Адна з адметнасцей гістарычнай і гісторыка-краязнаўчай літаратуры апошніх гадоў — уважлівае стаўленне аўтараў кніжак такой тэматыкі да роднай беларускай мовы. Цяпер ужо наўрад ці хто адважыцца прынесці ў выдавецтва рукапіс пра свае родныя мясціны на расійскай мове.

Таму бачыцца заканамерным вырашэнне даследчыцай беларускай мінуўшчыны Людмілай Дучыц тэмы, пра якую гаворыць назва яе кнігі, толькі што выдадзенай «Навукай і тэхнікай» — «Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў».

У невялікай прадмове аўтар тлумачыць важную ролю даследавання ў агульным кантэксце вывучэння беларускай археалогіі і ўсёй беларускай гісторыі. У прыватнасці, яна адзначае: «Шмат розных паданняў бытуе ў беларускага народа пра гарады і вёскі, рэкі і азёры. Месцы, дзе калісьці былі старажытныя паселішчы, дзе людзі хавалі сваіх супляменнікаў і адзначаліся язычніцкія святы, засталіся ў народнай памяці, за імі замацаваліся своеасаблівыя назвы. На працягу стагоддзяў назвы мяняліся, на адны наслойваліся іншыя і так да нашых дзён. Народная памяць аб адным археалагічным помніку захавала нават некалькі назваў, якія служаць адлюстраваннем гістарычных падзей і светаўспрымання нашых продкаў».

Вядома, у аўтара кнігі былі папярэднікі. Яшчэ ў 1873 годзе праграмы Цэнтральнага статыстычнага камітэта ў збор звестак пра гарадзішчы і курганы ўключалі пытанні аб мясцовых назвах археалагічных помнікаў у паданнях пра іх. Шмат такіх матэрыялаў у свой час сабралі Ф. В. Пакроўскі і Е. Р. Раманаў. У 20-я гады XX ст. падобныя звесткі збіраў Інбелкульт. У 1926 годзе ў часопісе «Наш край» былі надрукаваны артыкул М. Мялешкі «Апытальны ліст да збірання народных вераванняў і прадстаўленняў, звязаных з каменем, і вестак аб каменных помніках гісторыка-археалагічнай значнасці».

Людміла Дучыц творча працягвае працу сваіх папярэднікаў, яднаючы і абагульняючы сведчанні, раскіданыя па розных крыніцах. Пры гэтым яна сістэматызуе паданні і легенды, падкрэслівае іх агульнасць, вывучае і рознасць характарыстык назваў стаянак, гарадзішчаў, іншых археалагічных аб'ектаў, захаваных у народзе.

Кніга складаецца з шасці раздзелаў: «Месцы старажытных паселішчаў (стаянкі, гарадзішчы, селішчы)», «Месцы старажытных пахаванняў (курганы, бескурганныя могільнікі)», «Культавыя камяні», «Агульнае ў назвах і паданнях», «Павер'і пра помнікі даўніны», «Змены назваў і паданняў». У кожным з раздзелаў лаканічна прасочваецца гісторыя светаўспрымання чалавекам тых ці іншых назваў. Дзякуючы даследчыцы міжвольна прыходзіш да высновы, што назвы археалагічных помнікаў выразна прысутнічаюць і ў нашым паўсядзённым жыцці, бо менавіта ад іх нарадзілася шмат тапонімаў сённяшніх.

Кніга Л. Дучыц карысная ўсім. І ў першую чаргу — масаваму чытачу. Добра, што гэта зразумелі ў выдавецтве «Навука і тэхніка», выпусціўшы «Археалагічныя помнікі ў назвах...» накладам 7760 пасобнікаў. Сёння, калі ў дзяржаве распачата масавая праца па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць», многія падказкі даследчыцы дапамогуць мясцовым краязнаўцам. У якасці дадатку ў кнізе пададзены і вельмі каштоўны для краязнаўцаў «Спіс народных назваў археалагічных помнікаў».

Праца Л. Дучыц — сапраўдны падарунак усім, хто займаецца вывучэннем роднай мінуўшчыны.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***МАМА, ПАЧЫТАЙ!***

## Лясная сталоўка

***Алесь ПІСЬМЯНКОЎ***

**У асінавым карытцы**
**Сок бярозавы іскрыцца.**
**Сок іскрыцца-серабрыцца,**
**Як жа мне не наталіцца?**
**Нават лось прыйшоў напіцца —**
**Выпіў поўнае карытца.**
**І цяпер вядзе сяброўку —**
**Спадабалася сталоўка!**



***Міраслава ЛУКША***

## Госці Мікіты

На вяселле да ката
Едуць госці ў санях.
Проста глянуць любата,
Такая кампанія:



Верабей Анікей,
Бела курка Нюрка,
Рагуля Бысуля,
Рабы кот Хвядот,
Дзячынка Алінка.
А за імі,
У машыне,
Дзве авечкі-дамы
У футрах проста з
крамы:
Белая — Мэля,
Чорная — Бэля.
А хто шафёр?
Бабёр Нікіфор!

***Міхась СКОБЛА***

## Загадкі

**Ён не любіць шматлікіх суполак.**
**Спіць сабе пад густым ядлаўцом.**
**Мае безліч прыгожых іголак,**
**хоць не быў аніколі шаўцом.**

**Лісцем высахлым вымасціў**
**ложак**
**у бярлозе маленечкай (вожык).**

* * *

**Я ўсё магу — складаць і**
**множыць,**
**і нават трошкі варажыць.**
**З «Ну, пачакай» ваўка**
**стрыножыць**
**і ў сходу да часу палажыць.**

**Я вылічу Зямлі памеры,**
**і шлях ці блізкі да Венеры.**

**І ці далёка бабчын хутар.**
**Я ўсё магу, бо я — (кампутар).**

* * *

**Вы не бачылі выпадкова:**
**у сцяну ўбіты срэбны цвік.**
**Залатая на ім падкова.**
**Гэта — (зорка і маладзік).**

* * *

**На палеткі і лугі,**
**на пагоркі і лагі,**
**ды на паясы дарог**
**з неба сыпаўся гарох.**

**Певень выбег з-пад прысад,**
**дзеўбануў, а гэта — (град).**

ТЭАТР



# «Песня пра зубра» на сцэне

Прыкметнай падзеяй у сталічным культурным жыцці стала прэм'ера Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. На сцэне тут увасоблена п'еса Алеся Дударава паводле славутай паэмы беларускага паэта-лаціністa XVI стагоддзя Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра».

Відовішчны спектакль, як і паэма, вяртае ў часы найбольшага росквіту нашай старадаўняй дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, якая пры вялікіх князях Ягайле і Вітаўце з'яўлялася адной з самых магутных краін Еўропы.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. У ролі Ягайлы — артыст Аляксандр Курловіч (злева), Вітаўт — Юрый Вута.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.

## УВАГА! КОНКУРС!

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сумесна з арганізацыямі — заснавальнікамі ТБМ прыняла Пастанову аб правядзенні з 22 сакавіка па 15 траўня г. г. Рэспубліканскага конкурсу на лепшую арганізацыю ТБМ, прысвечанага пятым угодкам з дня заснавання Таварыства. Галоўная ўмова конкурсу — стварэнне летапісу дзейнасці кожнай суполкі і арганізацыі з дня ўзнікнення па сённяшні час. Падрабязныя ўмовы конкурсу будуць надрукаваны ў наступным нумары газеты.

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.

## УВАГА!

**Шаноўныя настаўнікі школ, выкладчыкі ліцэяў, вучылішчаў, тэхнікумаў, інстытутаў, а таксама ўсе, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі!**

**Вам прапануюцца цікавыя гісторыка-літаратурныя і краязнаўчыя экскурсіі па Менску, сталічных ваколіцах і па іншых мясцінах нашай Беларусі.**

**Даведкі можна атрымаць па менскім тэлефоне 61-35-30.**

## Афарызмы

Еван Еванавіч ЗМАЙ

У свеце ідэй хапае і мёртванароджаных, і жывымі закапаных.

Лепшае пахаванне — калі ідэалы хаваюць чалавека, а не калі чалавек хавае свае ідэалы.

З малой любові не можа нарадзіцца вялікая нянавісць.

Мудры дыпламат, уцякаючы, бяжыць так, што ўсім здаецца, нібы ён кагосьці даганяе. А праследуючы, робіць так, быццам бы сам ад некага ўцякае.

Больш упэўнена ідзе сляпы сам, а не тады, калі яго другі сляпы вядзе.

«Двухаблічны тып» — эўфемізм. Бо каму недастаткова аднаго аблічча, тады мала і двух, набываецца гэтулькі, што ён і сам іх не злічыць.

Грузчыкі і астатнія людзі фізічнай працы рэдка льюць слёзы — усё ў іх потам выліваецца.

У вялікіх людзей недахопаў гэтулькі, колькі трэба, каб яны не сталі анёламі.

Пераклаў з сербскахарвацкай І. ЧАРОТА.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**23 САКАВІКА, СЕРАДА**

**13.30. Навіны.**
**17.40. Майстэрня. Беларуская графіка 20-х гадоў.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Пяць зорак».**
**20.00. ТА «Рэха». Крэда. Праграма для дзелавых людзей.**
**21.00. Панарама.**
**21.35. «Ніхто, акрамя цябе». Мастацкі фільм.**

**24 САКАВІКА, ЧАЦВЕР**

**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.05. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**20.10. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**21.35. «Ніхто, акрамя цябе». Мастацкі фільм.**

**25 САКАВІКА, ПЯТНІЦА**

**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. «Беларусь — мая шыпшына». Дакументальны фільм.**
**21.00. Панарама.**
**21.35. «Ніхто, акрамя цябе». Мастацкі фільм.**

**26 САКАВІКА, СУБОТА**

**11.05. «Лінія смерці». Мастацкі фільм.**
**12.45. «Сталіца». Тэлечасопіс.**
**15.40. Дзесяць запаведзяў. Перадача першая.**
**18.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Залатая дзесятка». Конкурс маладых палітыкаў.**
**21.00. Панарама.**
**21.45. «Кароткі подых кахання». Мастацкі фільм.**
**23.35. НІКа.**

**27 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ**

**15.15. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.**
**16.55. «Гінес-шоу».**
**17.25. Радавод. Галасы вякоў.**
**18.00. Сёння — Міжнародны дзень тэатра. Трансляцыя з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**
**20.00. Панарама.**
**21.10. «Дзіўныя прыгоды незвычайнага таты». Мастацкі фільм.**




## *Д. Джарвіс: Значэнне ёду*

***(Заканчэнне. Пачатак у № 8)***

Дзякуючы доследам, якія правёў доктар Джарвіс на жывёлах, мы цяпер ведаем, што хуткасць бегу і фізічная вынослівасць скакуноў, а таксама паляўнічых сабак значна павышаецца, калі дабаўляць ім у ежу яблычны воцат і ёд. У кароў жа малако даходзіць да нормы. Нармальнае малако мае слабую кіслую рэакцыю. Са змяненнем рэакцыі ад кіслай да шчолачнай малако згушчаецца.

Грунтуючыся на выніках гэтых доследаў, доктар Джарвіс рэкамендуе аслабленым людзям прытрымлівацца адпаведнага рэжыму харчавання, а таксама прымаць ёд і яблычны воцат з ежай. Ён піша: «На снеданне не рэкамендуецца есці пшанічную кашу, цукар, цытрусавыя фрукты і сокі, паколькі ў большасці людзей такая ежа выклікае змяненне нармальнай кіслай рэакцыі мачы да шчолачнай — сігнал, які паказвае, што кроў гусцейшая за норму, што яе цыркуляцыя ўскладнена, у сувязі з чым узрастае нагрузка на сэрца, якое выконвае функцыю помпы. Таму варта замяніць названыя прадукты на вырабы з кукурузы і круп. Замест цукру трэба скарыстоўваць мёд. Можна піць яблычны, вінаградны і журавінны сокі.

За другім снеданнем рэкамендуецца выпіваць 2 чайныя лыжкі яблычнага воцату і столькі ж мёду на шклянку вады. Пры гэтым арганізм атрымлівае кіслату, якая маецца ў фруктах, зеляніне і карэннях гародніны, а таксама сонечную энергію, нібы сканцэнтраваную ў мёдзе. Гэтую сумесь можна прымаць да снедання, у час снедання і паснедаўшы. Пры павышэнні актыўнасці арганізма рэакцыя мачы мяняецца ад нормы (кіслай) да шчолачнай. Таму немэтазгодна есці на снеданне такія прадукты, якія будуць садзейнічаць такой змене. Таму пшанічная ежа, цукар, цытрусавыя фрукты і сокі павінны быць выключаны з рэжыму, каб чалавек не адчуў фізічнай і разумовай стомленасці.

За вячэрай таксама трэба прымаць 2 чайныя лыжкі мёду і 2 чайныя лыжкі яблычнага воцату на шклянку вады. Да яды карысна з'есці салат з зеляніны. Карысна есці рыбу або іншыя марскія прадукты, калі ваш дзень быў насычаны работай і хваляваннем.

Марскія прадукты, багатыя на ёд, служаць крыніцай калію, які супакойваюча дзейнічае на нервовую сістэму. Ялавічыну, бараніну і свініну рэкамендуецца ўжываць два разы на тыдзень або ў разгрузачныя дні. Памятайце, што унутраныя органы жывёл, напрыклад печань, уяўляюць сабой сховішча пажыўных рэчываў, якія скарыстоўваюць пры неабходнасці. Карысна есці печань або ліверную каўбасу раз на тыдзень. Паступова, прытрымліваючыся дадзенага рэжыму харчавання, можна зменьваць штодзённы рацыён так, каб ежа кампенсавала выдаткі сіл і энергіі. Дапускаючы, што вы прытрымліваецеся маіх рэкамендацый, і, улічваючы пры гэтым, што на працягу некалькіх тыдняў фізічная нагрузка і адмоўныя эмоцыі накладвалі на арганізм свой адбітак, рэкамендуецца дабаўляць кроплю ёднага раствору Люголя на шклянку яблычнага або вінаграднага соку, што выпіваецца ў час снедання. Ёдны раствор можна таксама прымаць у сумесі з яблычным воцатам і вадою. Справа ў тым, што калій у растворы садзейнічае расслабленню арганізма, здымаючы напружанне і ствараючы ўмовы для адпачынку. Ён прыводзіць у дзеянне механізм, што стварае аптымістычны настрой усяго арганізма, схіляючы яго да спакою і садзейнічаючы назапашванню карысных рэчываў. Ва ўмовах павышанай нагрузкі на арганізм (напружання) прымайце дозу раствору Люголя штодзённа да таго часу, пакуль арганізм не расслабіцца. Першай прыкметай насычэння арганізма ёдам будзе павелічэнне колькасці слізі ў носе. У такім выпадку да знікнення гэтай з'явы трэба на пэўны час спыніць скарыстанне ёду.

Хутка па ўласнаму вопыту вы зможаце вызначаць, калі вам патрэбны ёд. Калі начны адпачынак перастане ў дастатковай меры аднаўляць энергію, успомніце пра ёд. Калі вы навучыліся яго скарыстоўваць, гэта вам дазволіць наверстаць упушчанае і падтрымаць добрае самаадчуванне».

***Пароды***

***Георгій ЮРЧАНКА***

## Спатканне з лесуном

*Прыхаваўся мой лясун*
*І прыкрыўся барадою...*
*...*
*Зноў засмяюся і паплачу*
*Каля натхнёнага радка.*

**Святлана Каробкіна.**

Яшчэ не рвана рута-мята,
Спакойна дрэмле мой давер.
Бо я, здаецца, не занята
Ні ў панядзелак, ні ў чацвер.

Не вер хлусні, што хваляванне
Не закранае сэрца струн.
Ка мне спяшае на спатканне
З-за елкі казачнай лясун.

З-пад броў яго пушыста-смелых
Пагляд прыкмечу трапяткі,
Як будзе слухаць ён знямела
Мае натхнёныя радкі.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 66.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8948 паасобнікаў.

Падпісана ў друк 21.03.1994 г. у 15 гадзін.